# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Чацвер, 27 кастрычніка 1994 года | № 115 (10815) | Цана 30 руб.


■ Восень Міншчыны-94










# КАРАВАІ З МАЗОЛІСТЫХ РУК

***Гэтую падзею, якая праходзіць у Мінску ўсяго другі раз, так і хочацца назваць светлым, мілагучным словам "свята". Бо здаецца, што яно, гэтае свята, наведвае нашы гарады і вёскі з даўніх часоў... У полі ўбраны апошні бульбяны клубень, апошні караняплод; вярнуліся пад павеці да бляску адшліфаваныя плуг і барана, а на стале селяніна (побач з чаркай) лёг духмяны каравай з новага ўраджаю.***

Ціхімі асеннімі днямі свята з сялянскіх сяліб перавандроўвае на гарадскія плошчы і вуліцы, у прасторныя крытыя павільёны. І з ранку да вечара гамоняць, іграюць, пяюць заліхвацкія кірмашы.

Вось так прыйшло пазаўчора стракатае, гаманлівае свята "Восень Міншчыны-94" у выставачны павільён, што па вуліцы Янкі Купалы, і на прылеглыя пляцоўкі. З самага ранку, як толькі распакавалі свае скрыні і скрынкі вяскоўцы, як толькі паставілі столікі і адрэгулявалі вагі, перад павільёнам разгарнуўся бойкі гандаль агароднінай, разнастайнымі мяснымі і кулінарнымі вырабамі, якія прывезлі прадстаўнікі нарыхтоўча-закупачных кантор спажывецкіх таварыстваў з Беразіно, Барысава, Валожына і іншых раёнаў, а таксама з Барысаўскага мясакамбіната. Тут можна было набыць (па адносна невысокіх цэнах) сыры і іншую малочную прадукцыю.

Пра цэны варта сказаць асобна. Над прылаўкам Барысаўскага мясакамбіната, дзе можна было набыць апетытныя каўбасы, сардэлькі, сасіскі, вяндліну і іншае, вісела красамоўная шыльдачка: "Цэны ў параўнанні з рыначнымі зніжаны на 10 — 15 працэнтаў". І сапраўды, каўбасныя вырабы, якія ў магазіне каштуюць 7 — 9 тысяч рублёў за кілаграм, тут можна было купіць за 5 — 6 тысяч. Яблыкі рэалізоўваліся па 600 рублёў. Калгас імя Марата Казея Дзяржынскага раёна даставіў аўтамашыну капусты. Па 300 рублёў за кілаграм. Утварылася чарга. Мінула крыху больш за тры гадзіны, і вадзіцель з задавальненнем зачыніў задні борт кузава.

А тым часам у павільёне ўсё было гатова да ўрачыстага адкрыцця выстаўкі-кірмашу. Практычна для ўсіх раёнаў вобласці знайшлося месца, каб размясціць свае стэнды, прыгожа раскласці прадукцыю. Дарэчы, не толькі харчовыя тавары, але і вопратку, абутак, футра, вырабы з дрэва, металу і многае іншае.

На выстаўку-кірмаш прыйшлі старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч, першы намеснік старшыні аблвыканкома, старшыня аблсельгасхарча А.М.Жук, адказныя работнікі аблвыканкома, намеснікі старшыні аблсельгасхарча.

11 гадзін. Песняй "Расцвітай, наш край" іх вітае вакальна-танцавальны ансамбль сноўскага Палаца культуры Нясвіжскага раёна "Вяночак". Паважаным гасцям падносяць каравай, які прымае А.І.Цішкевіч. Да мікрафона, што ўстаноўлены на пляцоўцы, адкуль звычайна пачынаецца агляд экспанатаў, падыходзіць намеснік старшыні аблсельгасхарча па навуцы, генеральны дырэктар навукова-вытворчага аб"яднання па сельскай гаспадарцы Г.А.Усюкевіч. Ён дае слова старшыні аблвыканкома А.І.Цішкевічу.

— Закончыўшы работы ў палях, на агародах, — сказаў Альфонс Ільіч, — калгаснікі і фермеры вобласці вырашылі паказаць працаўнікам сталіцы, што сёлета вырасцілі, атрымалі. Прайшоўшы ля стэндаў, вы ўбачыце, што калгасы могуць забяспечыць прадуктамі харчавання насельніцтва нашых гарадоў. На гэтай выстаўцы-кірмашы яны прадстаўляюць даволі багаты асартымент прадукцыі палёў і ферм, садоў і агародаў і спадзяюцца, што знойдуцца пакупнікі, якія пажадаюць заключыць з гаспадаркамі кантракты на пастаўку гэтай прадукцыі.

Альфонс Ільіч шчыра падзякаваў калгаснікам, фермерам, усім вяскоўцам за самаадданую працу і пажадаў прыемных пакупак шматлікім наведвальнікам выстаўкі-кірмашу, а таксама выгадных здзелак і кантрактаў камерсантам. Пад гукі музыкі ён разрэзаў сімвалічную чырвоную стужку і пажадаў усім паспяховай работы. Прадстаўнікі аблвыканкома і аблсельгасхарча, журналісты газет, радыё і тэлебачання накіроўваюцца да стэндаў, падоўгу затрымліваюцца ля цікавых экспанатаў, дыяграм. А тым часам на пляцоўку зноў выходзяць артысты "Вяночка" — гучыць музыка "Лявоніхі".

Што ж прывезлі прадстаўнікі АПК вобласці на сваю выстаўку? Не бяромся даваць вычарпальнае апісанне ўсіх стэндаў. Гэта немагчыма. А вось засяродзіць увагу чытача на найбольш цікавых пастараемся.

Багаццем і разнастайнасцю каўбас, вяндліны, рулетаў, садавіны, агародніны, кансерванай прадукцыі, напіткаў радуюць стэнды Мінскага, Слуцкага, Вілейскага, Смалявіцкага, Дзяржынскага, Стаўбцоўскага, Нясвіжскага і іншых раёнаў. Тут па-ранейшаму трымаецца на належным узроўні вытворчасць агародніны, садавіны, ягад, бульбы. Частка гаспадарак мае ўласныя перапрацоўчыя цэхі, дзе атрымліваюць квашаную і марынаваную прадукцыю. Плады, ягады перапрацоўваюцца на сокі, джэмы, павідла. І ўсё гэта ў належнай упакоўцы. Словам, прадукцыя, якая можа зрабіць гонар любому магазіну.

У гэтых адносінах асабліва вылучаюцца гаспадаркі, якія ўваходзяць у склад абласнога вытворчага аб"яднання "Мінскплодагароднінагас". Яго старшыня В.Р.Казека расказаў карэспандэнту, што на выстаўцы-кірмашы сёння прадстаўлена 30 відаў прадукцыі, выпуск якой гаспадаркі асвоілі летась і сёлета. Гэта два віды кансерванага дзіцячага харчавання, сем — фруктова-агародных кансерваў, пяць — пладова-ягадных напіткаў, столькі ж — пладова-ягадных він, чатыры віды прыправ і г.д. І гэта не ўсё. Аб"яднанне прапануе аптовым пакупнікам для рэалізацыі 10 тысяч тон белакачаннай капусты, 2 тысячы тон сталовых буракоў, столькі ж — морквы. Бульбу (лепшых сталовых сартоў) рэалізуе без абмежавання.

Дарэчы, як сведчаць спецыялісты некаторых гаспадарак — удзельніц выстаўкі і аблсельгасхарча, днём раней, яшчэ да адкрыцця выстаўкі, паглядзець яе прыйшлі некалькі амерыканцаў. Па ўсёй верагоднасці — фермераў. І што характэрна, ніхто не заўважыў на іх тварах скептыцызму. Наадварот, праходзячы ля стэндаў вышэй памянёных раёнаў, яны часам не без здзіўлення запавольвалі крок. Сапраўды, нельга не залюбавацца важкімі снапамі пшаніцы, ячменю, жыта, якія прадставіў калгас імя Гастэлы Мінскага раёна. Нягледзячы на сёлетнюю засуху ячмень "прыма Беларусі" даў у гэтай гаспадарцы па 59,8 цэнтнера зерня з гектара.

Пшаніца "надзея" "адваліла" па 59,3 цэнтнера. Ураджаі, якія, відаць, мала чым адрозніваюцца ад намалотаў зерня ў амерыканскіх прэрыях.

Доўга разглядвалі амерыканскія госці вырабы Мінскага вытворчага лесагаспадарчага аб"яднання — разнастайную будаўнічую сталярку, прыгожую мэблю, а таксама мэблю Гарадзейскага льнозавода, і ў іх гутарцы часта чулася слова "натураль". З такою ж увагай знаёміліся яны і са стэндам абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі, што прадставіла на выстаўку 6 сартоў кукурузы, якія даюць ва ўмовах нашай вобласці спелыя пачаткі, 8 сартоў гароху, 4 — лубіну, 16 відаў траў ды 20 сартоў і відаў збожжавых культур, якія могуць, як сведчыць вопыт калгаса імя Гастэлы, з ліхвой плаціць земляробу за яго працу.

І ўсё гэтае багацце прыйшло на выстаўку — нягледзячы на тое, што нашы народныя выбраннікі разам з урадам паставілі аграпрамысловы комплекс літаральна на калені, прыніжальнай палітыкай цэн стварылі ўмовы, калі жывёлагадоўчая галіна можа вяртаць за сваю прадукцыю толькі 60 — 70 працэнтаў выдаткаў, калі не дакупіцца мінеральных угнаенняў, сродкаў аховы раслін, запчастак. А яшчэ ж з гаспадарак, у касах якіх гуляе вецер, дзяржава спаганяе немалыя падаткі.

І тым не менш на выстаўцы-кірмашы ёсць што пагледзець, ёсць чаму здзівіцца. А 15-й гадзіне яе наведаў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Мечаслаў Грыб. Музыкай, хлебам-соллю яго сустрэлі ў павільёне прадстаўнікі калгасаў.

Неўзабаве да М.Грыба далучыліся кіраўнік урада Міхаіл Чыгір і яго намеснік Уладзімір Гаркун.

Выстаўка-кірмаш "Восень Міншчыны-94" прадоўжыць работу да 28 кастрычніка.

*Іван АБАБУРКА.*
*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Супрацоўніцтва

# УЛАСНІК НАРАДЖАЕЦЦА СПАКВАЛЯ

## *Нататкі аб паездцы групы кіраўнікоў гаспадарак вобласці на Магілёўшчыну*

***Быў час, калі сярод гаспадарак Магілёўшчыны яўна вылучаліся два флагманы: калгас "Рассвет" Кіраўскага і калгас "Камінтэрн" Магілёўскага раёнаў. І тады, у пасляваенныя гады, камінтэрнаўцы па многіх паказчыках пераўзыходзілі сваіх сапернікаў. Але пасля таго як не стала старшыні Смірнова, калгасу зусім не шанцавала на талковых гаспадароў. І толькі цяпер, з прыходам да кіраўніцтва Віктара Мікалаевіча Міргарадскага, калгас, што называецца, набыў другое дыханне, выпрастаў свае патэнцыяльна моцныя плечы.***

Цікавыя напрацоўкі калектыву ў арганізацыі вытворчасці прыцягнулі ўвагу старшыні Мінскага аблвыканкома А.І.Цішкевіча. Па яго ініцыятыве і была арганізавана азнаямляльная паездка групы кіраўнікоў гаспадарак Міншчыны ў "Камінтэрн".

Безумоўна, за адзін дзень знаходжання ў гаспадарцы складана было ўнікнуць ва ўсе тонкасці камінтэрнаўскай сістэмы кіравання вытворчасцю. Але саму ідэю яе, думаецца, старшыня В.М.Міргарадскі, кіраўнікі арэндных калектываў змаглі растлумачыць. А сутнасць яе заключалася ў тым, каб разарваць прывычную схему ўзаемаадносін унутры гаспадаркі, калі "ўсё навокал наша і ўсім трэба даць пакрысе".

Але па якім шляху пайсці? Якраз у канцы 1989—пачатку 90-га гадоў шмат шуму было вакол фермерства. Аднак, улічваючы тую ж "усёнавокалнашаўскую" псіхалогію, матэрыяльную базу, разлічаную на буйнамаштабнае гаспадаранне, у "Камінтэрне" вырашылі, што стаўку на фермерства рабіць рана. Таварную вытворчасць яно не забяспечыць.

Можна было паспрабаваць акцыяніраванне. Інакш кажучы, раздзяліць зямлю на паі, а потым іх уладальнікам аб"яднацца ў калектывы на новай аснове. Аднак гэта таксама быў рызыкоўны крок: раздаць можна, сабраць будзе складана.

Той шлях, які выбралі ў гаспадарцы, склаўся як бы сам па сабе. Ёсць працоўныя калектывы структурных падраздзяленняў, ёсць матэрыяльная база, ёсць абаротныя сродкі, людзі працуюць — няхай так прыкладна і застаецца. Што змянілі толькі? Адзінае, аб чым дамовіліся: усе затраты, якія нясе вытворчы калектыў, і ўсе даходы, якія ён атрымае, — усё гэта набыткі толькі калектыву.

Распрацавалі статут калгаса, у ім замацавалі гэтае правіла. У кожным арэндным калектыве на сходзе таксама быў прыняты свой статут, выбраны кіраўнікі. У арэндныя калектывы па актах былі перададзены тэхніка, абсталяванне, жывёла і г.д. Склалі і прынялі дагаворы паміж калектывамі-партнёрамі. Словам, арэнднай ячэйцы была дадзена поўная самастойнасць. А ў адзіны разліковы дзень штомесяц падлічваліся затраты, падсумоўваліся даходы.

Мінуў год. Падвялі вынікі. Праўленне строга прытрымлівалася статута і дагавораў. Усё, што было запісана, аб чым дамоўлена, выканалі, як заўважыў В.М.Міргарадскі, ад "А" да "Я". "Апафеозам" жа гэтага новаўвядзення з"явілася тое, што самі калектывы, і толькі яны, распарадзіліся сваім даходам, самі вызначалі, якую частку яго выкарыстаць на папаўненне капіталу, якую — размеркаваць паміж работнікамі як заработную плату. На падставе рашэння калектыву, якое, дарэчы, з'яўляецца першым і апошнім дакументам для налічэння зарплаты, фінансава-разліковы цэнтр калгаса і ажыццявіў выплату.

Такім вось чынам удалося пазбегнуць усеагульнайураўнілаўкі, хаця, безумоўна, яе рэцыдывы не, не ды і ўзнікаюць. Але галоўнае, — знойдзена найбольш прывабная схема дзейнасці.

Па ёй калгас працуе ўжо чатыры гады. І ўвесь гэты час, вядома, механізм гаспадарчаразліковых адносін удасканальваецца, адшліфоўваюцца яго асобныя дэталі. Згодна са статутам, усё набытае калектывамі ў выглядзе гаспадарчага даходу і амартызацыйных адлічэнняў пераходзіць у іх непасрэдную ўласнасць. Некаторыя з іх маюць да 50 працэнтаў уласнасці ў асноўных фондах, якімі распараджаюцца на сённяшні дзень. Па сутнасці гэта ўжо не арандатары, а ўласнікі. І на чарговым сходзе ўпаўнаважаных арэндныя калектывы будуць перайменаваны ў кааператывы.

А іх у гаспадарцы каля сарака: раслінаводчыя, жывёлагадоўчыя, зверагадоўчы, будаўнічы, рамонтны, камерцыйны і г.д. Асобна варта спыніцца на фінансава-разліковым цэнтры. Ён таксама працуе па дагаворах: па даручэнню арэндных калектываў выконвае іх фінансавыя аперацыі, вядзе статыстычную справаздачнасць, забяспечвае данымі правяраючых і кантралюючых. Пры гэтым існуе на ўласныя заробкі. У такіх жа адносінах з вытворчымі ячэйкамі знаходзяцца і калгасныя спецыялісты.

Словам, сістэма запушчана, дзейнічае. З"явіўся новы дэвіз: "Працаваць разам, а грошыкі — паасобку". Але для дэталёвага яе вывучэння, вядома ж, патрэбна не азнаямляльная паездка, а глыбокае вывучэнне дакументаў спецыялістамі. І большасць кіраўнікоў Міншчыны, што пабывалі ў "Камінтэрне", маюць на мэце яшчэ раз завітаць сюды са сваімі "штабамі".

Чаго дабіліся магіляўчане такой арганізацыяй працы? Па-першае, удалося захаваць рабочыя месцы, матэрыяльную базу. Па-другое, пры пэўным скарачэнні аб"ёмаў вытворчасці не дапусціць яе абвалу, як гэта было ў расійскіх суседзяў. Па-трэцяе, усе вытворчасці калгаса засталіся прыбытковыя. Нават малако забяспечвае 10-працэнтную рэнтабельнасць, хаця пры пэўнай цэнавай падтрымцы з боку дзяржавы можна было б мець больш высокі яе ўзровень. Пачацвёртае, нават у пік сельгасработ тут няма запаркі — кожны ведае сваё кола абавязкаў і не чакае "паганятых". І галоўнае, — прынятая да дзеяння сістэма паступова нараджае ўласніка, чалавека, кроўна зацікаўленага ў эфектыўных выніках сваёй працы.

Усе гэтыя плюсы станоўча ацанілі кіраўнікі Міншчыны. У прыватнасці, дырэктар саўгаса "Гвардыя" Барысаўскага раёна В.А.Седзін падкрэсліў, што такую ініцыятыву павінна заахвочваць дзяржава, але заканадаўчая база часам не дазваляе аграрнікам, асабліва ў саўгасах, дзе маёмасць дзяржаўная, свабодна манеўраваць сваімі дзеяннямі. Старшыняў калгасаў імя Карла Маркса Валожынскага раёна Я.Я.Скрундзя, "Хатава" Стаўбцоўскага раёна Г.У.Жука цікавіла роля кіраўніка гаспадаркі, рычагі яго ўплыву на кіраванне вытворчасцю. І В.М.Міргарадскі даў, здаецца, вычарпальны адказ: у гаспадарчую дзейнасць арэндных калектываў ён не ўмешваецца, бо калі б умешваўся, то адказваў бы за вынікі справы... і гэтым перакрэсліў бы ўсю самастойнасць пярвічных звенняў.

Пытанняў да В.М.Міргарадскага, вядома, было шмат, іх не акрэсліць у газетнай справаздачы аб паездцы. Але, думаецца, кіраўнікі гаспадарак змогуць данесці ўсё ўбачанае і пачутае да сваіх калег у раёнах. А пра асабістыя ўражанні ад паездкі асобных аграрнікаў Міншчыны мы раскажам на старонках "Мінскай праўды".

Пры падвядзенні вынікаў агляду выступілі таксама старшыня Мінскага аблвыканкома А.І.Цішкевіч і міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання В.С.Ляонаў.

*Мікалай КАРОЛЬ.*

# РОСТ В 15 РАЗ, А В КАРМАНЕ ПУСТО

На оплату труда работников народного хозяйства области (без коммерческих структур) за три квартала использовано 286,2 миллиарда рублей. Еще 29,4 миллиарда — в виде материальной помощи и социально-трудовых льгот. По сравнению с аналогичным периодом прошлого года фонд оплаты труда возрос в 15,2 раза.

Среднемесячная заработная плата работников в январе-сентябре составила 50.276 рублей. В том числе в сентябре — 100.814 рублей и увеличилась по сравнению с сентябрем 1993 года в 16 раз. Рабочим и служащим в сентябре начислено в среднем по 111.756 рублей, колхозникам — 65.120 или на 41,7 процента меньше.

В сентябре самую высокую зарплату получали работники строительно-монтажных организаций — 151.929 рублей, а также на предприятиях и в организациях промышленности — 135.937 рублей, на железнодорожном транспорте — 135.651, работники сферы материально-технического снабжения и сбыта — 117.165, аппарата органов государственного и хозяйственного управления — 109.688. Заработная плата строителей превысила среднеобластной уровень в 2 раза, банковских служащих — в 1,8.

По-прежнему в числе низкооплачиваемых работники непроизводственной сферы бытового обслуживания населения — 54.104 рубля, искусства — 64.916, социального обеспечения — 65.746, культуры — 68.265, науки и научного обслуживания — 74.561 руб.

Низкой остается зарплата и в сельском хозяйстве. Так, в сентябре у операторов машинного доения она на 31 процент ниже среднеобластного показателя, у трактористов и трактористов-машинистов — на 18 процентов.

Фактически одним работником, который был занят в народном хозяйстве области, получено в среднем в январе — 6, в сентябре — 10,1 минимальной заработной платы.

Один час рабочего времени в сентябре оплачивался в размере 643 рублей, в том числе у рабочих и служащих — 741, колхозников — 376 рублей.

*Ольга ПОЗНЯКОВА, сотрудник облстатуправления.*

Криминал

# СМЕРТЬ И ГОЛУБИ

Недавно жители одной из "многоэтажек" в Заводском районе белорусской столицы были потрясены случившимся. Известного в округе голубятника Н. обнаружили мертвым в собственной голубятне с более чем десятью ножевыми ранами на теле. А в квартире нашли его жену, убитую таким же образом. Рядом с ней находилась накрытая подушкой восьмимесячная дочь. Убийца или убийцы, видимо, полагали, что ребенок задохнется, но малышка, к счастью, оказалась жива.

Правоохранительные органы не спешат комментировать это событие. Жители же близлежащих домов сделали однозначный вывод: парня убрала местная мафия. Известно, что Н. увлекался не только голубями. Он часто ездил за границу и возвращался с валютой. Жил далеко не безбедно. Но, видимо, где-то допустил промах. Вот и поплатился.

Мафия, однако, своему бывшему сподвижнику устроила пышные похороны. Гробы с телами покойных сначала установили рядом с голубятней. Потом под вой автомобильных сирен, доносившихся не из одного десятка иномарок, процессия, перекрыв движение, двинулась по улице. Похоронили Н. и его жену на Северном кладбище, на центральной аллее.

*/Наш корр./.*

